№№85–86
(3624–3625)

1 чэрвеня 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Па дарозе ў Германію і Францыю прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін спыніўся ў Мінску. Што добрага прынясе гэты візіт беларускаму народу?



НУ І НУ!

## Зачыстка

*Вось ужо амаль месяц, як авангардны маладзёжны актыў — Мікола Дземідзенка, Уладзімір Яроменак, Зміцер Крамянецкі і Раман Васільеў — знаходзяцца за кратамі. Вядома ж, напярэдадні візіту ў Мінск У.Пуціна іх не выпусцілі на свабоду. Лепш перастрахавацца: а раптам хлопцы сустрэнуць расійскага прэзідэнта расцяжкамі ці нейкімі налепкамі?*

За дзень да прыезду Пуціна праваахоўнікі раптам згадалі і пра нацыянал-бальшавікоў. Траіх з іх — Дзмітрыя Сіняка, Яўгена Контуша і Дзмітрыя Паліенку — затрымалі літаральна каля пад'ездаў, калі хлопцы выходзілі з дому — хто на вучобу, хто на працу. Усіх пасадзілі пад адміністрацыйны арышт, абвінаваціўшы ў дробным хуліганстве. Рэакцыя іх паплечнікаў была рэзкай: на мосце над дарогай з Нацыянальнага аэрапорта ў Мінск з'явілася расцяжка проста зневажальнага зместу на адрас расійскага прэзідэнта. Яго папросту паслалі на тры літары. Вельмі верагодна, што калі б не "наезд", то нічога такога і не было б.

У сувязі з хваляй арыштаў Партыя БНФ нават прыняла заяву, якую агучыў намеснік старшыні партыі Ігар Лялькоў. Ён адзначыў, што *"любое ўзмацненне кантактаў афіцыйнага Мінска з Крамлём заўсёды азначала ўзмацненне палітычных рэпрэсій і пераслед іншадумцаў".* Пры гэтым ён падкрэсліў, што *"асаблівую недарэчнасць сустрэча беларускага і расійскага прэзідэнтаў набывае ва ўмовах узмацнення рэпрэсій адносна беларусаў у Расіі".* Палітык меў на ўвазе пагром у кватэры і офісе старшыні Іркуцкай суполкі беларускай культуры імя Яна Чэрскага, у выніку якога была канфіскавана аргтэхніка, кнігі, беларуская сімволіка. Саму арганізацыю і актывістаў клуба "Крывічы" — Алега Рудакова і Аляксея Кухто — абвінавацілі ў экстрэмісцкай дзейнасці.

Візіт Уладзіміра Пуціна ў Мінск першы пасля чарговага ўступлення на пасаду прэзідэнта Расійскай Федэрацыі. Пытанні, якія ён мусіць абмеркаваць з Аляксандрам Лукашэнкам, тычацца аказання Беларусі фінансавай падтрымкі, прыватызацыі буйных беларускіх прадпрыемстваў расійскімі інвестарамі, будаўніцтва АЭС, перспектывы стварэння холдынгу "Росбелавто" на базе актываў МАЗа і КамАЗа, а таксама ўзаемадзеяння ў ваенна-тэхнічнай сферы.

Зачыстка тэрыторыі працягвалася нават у дзень прыезду расійскага прэзідэнта. Івану Амельчанку дабавілі 10 сутак арышту. Ён акурат 31 мая адбыў свае 15 сутак і неяк адразу трапіў пад новы суд за хуліганства. Гэта цяпер практыка такая. Хлопцы сцвярджаюць, што на іх складаюць новыя пратаколы, практычна не выпусціўшы з ізалятара.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПОДСЧИТАЛИ

## Кто получает зарплату больше 500 долларов?

По данным Национального статистического комитета РБ, в апреле 2012 года у 15 категорий работников Беларуси средняя начисленная заработная плата превышала 500 долларов США, то есть 4 миллиона белорусских рублей. Но специалисты считают, что это не все категории. Просто государственная статистика по неизвестным причинам не предоставляет данные о зарплатах государственных служащих, сотрудников силовых структур, армии и т.п.

Тем не менее, по официальным данным, свыше 500 долларов в Беларуси получают в некоторых отраслях промышленности (химической, нефтепереработке, металлургии, нефтедобыче и др.), в финансовой сфере, в программировании, торговле автомобилями, железнодорожном и воздушном транспорте, а также в науке и архитектуре.

В целом номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Беларуси в апреле 2012 года достигла 3,25 миллиона рублей. В долларовом выражении это составляло 404 доллара.

По данным, которые учитывает официальная статистика, лидирует по оплате труда сфера деятельности, связанная с вычислительной техникой. Здесь средняя зарплата в апреле достигла 8,791 миллиона рублей.

СКАЗАНА!

*Аляксандр КОСІНЕЦ, старшыня Віцебскага аблвыканкама:*



## *Пастаўлена задача, каб да канца года сярэдняя зарплата была нават больш за 500 долараў, за красавік яна склала 367 долараў*

ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

***На якім падмурку базіруецца заява спадара Косінца? Ці рэальна на той жа Віцебшчыне павысіць заробкі амаль на 50 працэнтаў за некалькі месяцаў?***

**Эксперт Даследчага цэнтра Інстытута прадпрымальніцтва і менеджменту, эканаміст BEROC Дзмітрый КРУК разважае:**

— Калі гэта палітычная задача, то будуць уключаны адміністрацыйныя рычагі. У такім выпадку павысіць заробак да вызначанага ўзроўню рэальна. Але ж відавочна, что эканамічна такі рост не абумоўлены: прадукцыйнасць працы такімі хуткімі тэмпамі не расце.

На мой погляд, у нашых умовах нелагічны і падыход вымярэння зарплаты ў доларах. Напрыклад, Нацбанк ужо заявіў, што моцна стрымліваць курс не збіраецца. Таму не вядома, якой будзе восенню ў пераліку на рублі зарплата ў 500 долараў.

СІТУАЦЫЯ

## Нахапаліся кватэр

Па словах намесніка старшыні ўрада Анатоля Калініна, сярод уладальнікаў вялікай колькасці кватэр ёсць і дэпутаты.

Выступаючы на сумесным пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі, Анатоль Калінін паведаміў, што ў Мінску больш за 55 тысяч чалавек маюць у сваёй уласнасці па дзве кватэры, 5300 чалавек — па тры, 742 — па чатыры, 170 — па пяць, 140 — па шэсць кватэр.

Анатоль Калінін прызнаў, што гэтыя людзі сталі ўладальнікамі некалькіх кватэр, не парушаючы заканадаўства. Яны проста скарысталіся дзеючай у той час нормай закона, якая дазваляла не рэгістраваць пабудаванае жыллё на працягу пяці гадоў. Такім чынам, не зарэгістраваўшы адно жыллё, будавалі іншае.

На пытанне дэпутата Ларысы显 Вершаловіч, хто гэтыя людзі, Анатоль Калінін адказаў так: "Я думаю, што вы самі ведаеце некаторых з гэтых людзей, у тым ліку і тых, хто цяпер сядзіць у Авальнай зале".

**ДАРЭЧЫ**

Па інфармацыі Анатоля Калініна, у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў у Мінску стаяць 273 тысячы сем'яў. Віцэ-прэм'ер падкрэсліў, што цяпер існуе 16 падстаў, па якіх можна стаць у чаргу на жыллё. Але ён лічыць, што гэта занадта шмат, таму зараз абмяркоўваюцца магчымасці скарачэння гэтага спісу. Напрыклад, прапануецца не ставіць больш на ўлік тых, хто ўжо хоць раз карыстаўся льготамі. Выключэнне тут будзе зроблена толькі для шматдзетных сем'яў.

ДИПКУРЬЕР

## США предлагают снизить стоимость виз

*США предложили белорусскому правительству взаимно снизить стоимость виз. Об этом сообщил и Временный Поверенный в делах США в Беларуси Майкл Скэнлан.*

*"Недавно мы начали обсуждение, предложили белорусскому правительству взаимно снизить стоимость виз. Мы хотим это сделать, если белорусская сторона согласится на такой шаг. И речь здесь не идет о политике",* — заявил Майкл Скэнлан.

НАДВОР'Е

## Дажджы і навальніцы

У першы дзень лета на большай частцы тэрыторыі краіны чакаюцца дажджы (на паўночным-захадзе — моцныя), месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе 3—9°С, удзень — 13—20°С вышэй за нуль (на Гомельшчыне — да 23°С).

У суботу і нядзелю, 2 і 3 чэрвеня, надвор'е ў Беларусі абумовіць цыклон з цэнтрам над поўначчу Балтыйскага мора і халодныя паветраныя масы, якія паступаюць з паўночных шырот. Чакаецца няўстойлівае і халоднае надвор'е.

2 чэрвеня часам дажджы, ноччу ў паўночна-ўсходніх рэгіёнах месцамі моцныя дажджы, у асобных раёнах навальніцы. Днём месцамі моцны парывісты заходні вецер. Тэмпература паветра ноччу складзе ад +3°С па захадзе да +10...12°С па ўсходзе краіны. Днём усяго 10...17°С.

3 чэрвеня кароткачасовыя дажджы будуць адзначацца на большай частцы краіны, у асобных раёнах зноў магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ўначы +3...8°С, днём ад 11°С па поўначы да +18°С па поўдні.

УВАГА!

## Каб не засесці на мяжы

*У бліжэйшыя дні магчыма абмежаванне руху ў пункце пропуску "Каменны Лог" на беларуска-літоўскай мяжы. Прычына — рамонтныя работы ў пункце пропуску "Мядзінінкай" на тэрыторыі Літвы.*

Пра гэта паведамляе Дзяржаўны памежны камітэт Беларусі.

Паводле інфармацыі літоўскага боку, 30 мая ў ПП "Мядзінінкай" пачалася рэканструкцыя дарогі, у сувязі з чым на працягу сямі рабочых дзён пропуск грузавых аўтамабіляў будзе ажыццяўляцца толькі па адной паласе.

Другое абмежаванне магчыма з 14 чэрвеня. У гэты час на працягу 11 рабочых дзён будзе рамантавацца дарожнае асвятленне.

ЧУЛІ?

# Хто выкупіў бізнес Уладзіміра Пефцієва?

Адзін з найбуйнейшых беларускіх бізнесменаў Уладзімір Пефціеў прадаў кампанію "Белтэхэкспарт", якая займаецца экспартам узбраенняў і ваеннай тэхнікі, таямнічаму расійскаму бізнесмену. Нагадаем, што неафіцыйна Пефціеў лічыўся самым багатым чалавекам Беларусі.

"Кампанія ЗАТ "Белтэхэкспарт" пацвярджае інфармацыю аб змене ўладальніка кантрольнага пакета акцый групы кампаній ЗАТ "Кіруючая кампанія "Белтэх Холдынг", у якую ўваходзіць ЗАТ "Белтэхэкспарт". Уладальнікам кантрольнага пакета акцый групы кампаній стаў расійскі бізнесмен Дзмітрый Гурыновіч", — паведамілі агенцтву "Інтэрфакс-Захад" у кампаніі.

На прадпрыемстве пацвердзілі, што Уладзімір Паўлавіч Пефціеў "цалкам спыніў свой удзел у названай групе кампаній".

Пра новага ўладальніка вядома няшмат. Па інфармацыі "Белтэхэкспарту", Дзмітрый Гурыновіч з'яўляецца выпускніком і аспірантам Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі, уключаны ў кадравы рэзерв прэзідэнта РФ.

Нагадаем, што вядомы беларускі бізнесмен, блізкі да ўлад, кіраўнік кампаніі "Белтэхэкспарт" Уладзімір Пефціеў занесены ў спісы неўязных у ЕС. Супраць некалькіх яго кампаній ўведзены эканамічныя санкцыі ЕС. Пасля гэтага бізнесмен накіраваў у Еўрапейскі суд іск, у якім аспрэчваў рашэнне Савета ЕС.

Кампанія "Белтэхэкспарт" была створана 26 студзеня 1993 года і стала першым у Беларусі спецыялізаваным прадпрыемствам, якое працуе на міжнародным рынку ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі.

Цікава, што набыў яе чалавек, зусім невядомы ні на рынку ўзбраенняў, ні ў менш закрытых бізнесах. Ніякіх згадак у СМІ пра расійскага бізнесмена Дзмітрыя Фёдаравіча Гурыновіча няма. Адсутнічаюць якія-небудзь звесткі аб такім бізнесмене і ў спецыялізаванай сістэме СПАРК, якая змяшчае даныя аб усіх фірмах Расіі, Украіны і Казахстана і ўключае ў сябе даныя з больш як 20 розных крыніц, у ліку якіх федэральныя ведамствы, суды, СМІ, самі кампаніі. Таму ў пытанні, хто ж на самай справе купіў "Белтэхэкспарт", шмат што застаецца няясным. Бо невядомыя людзі працаваць на рынку ўзбраенняў проста не змогуць.

**КАМЕНТАРЫЙ**

Эканаміст Сяргей ЧАЛЫ з вялікай доляй верагоднасці дапускае, што кампанія можа быць прададзена падстаўной асобе, а кіраўніком па-ранейшаму з'яўляецца Уладзімір Пефціеў:

— Усё абмежавальныя меры Еўрасаюза былі накіраваны не супраць канкрэтнага бізнесу, а супраць канкрэтных людзей, якіх Еўропа лічыць "кашалькамі Аляксандра Лукашэнкі". На самай справе гэтыя людзі не з'яўляюцца цалкам алігархамі — хутчэй глядзяць за бізнесам. Першае рашэнне, якое напрошвалася пасля ўвядзення абмежавальных захадаў з боку Еўрасаюза, — змяніць твар кампаніі, — заявіў Сяргей Чалы.

— Гэта значыць, што фармальна кіраўніком "Белтэхэкспарту" стаў "расійскі бізнесмен Дзмітрый Гурыновіч", сляды якога ніхто не можа адшукаць, але Уладзімір Пефціеў па-ранейшаму можа руліць кампаніяй?

— Можа. Думаю, асоба вялікага значэння не мае. Кампанію можа ўзначаліць любая падстаўная асоба, пажадана з расійскім грамадзянствам. Так што такі сцэнарый цалкам рэальны.

З АРХІВА

## Цікавыя факты з біяграфіі Уладзіміра Пефціева

### З лёгкай рукі Кебіча

СП ЗАТ "Белтэхэкспарт" у студзені 1993 года ў Мінску заснавалі авіяцыйна-аналітычны цэнтр Міністэрства абароны, Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне і СП "СЕН", якім кіраваў 35-гадовы ўраджэнец Украіны Уладзімір Пефціеў. Менавіта ён і ўзначаліў новае прадпрыемства.

Як пісала "Белорусская деловая газета", сваім нараджэннем фірма была абавязана прэм'ер-міністру Вячаславу Кебічу, блізкі сваяк якога стаў адным з супрацоўнікаў "Белтэхэкспарту". Прадпрыемства стваралася для рэалізацыі велізарных запасаў узбраенняў, якія дасталіся незалежнай Беларусі ў спадчыну ад Савецкай арміі. На думку экспертаў, "Белтэхэкспарт" таксама актыўна гандляваў зброяй з расійскіх арсеналаў.

### Транзітам з Мальты

Як сведчаць матэрыялы дыпламатычнай перапіскі прадстаўнікоў ЗША, рассакрэчаныя сайтам Wikileaks, у 2007 годзе амерыканскае пасольства паведаміла ў Дзярждэп, што Уладзімір Пефціеў разам са сваімі малалетнімі дзецьмі вярнуўся ў Мінск. Прычым адзначалася, што дзеці нават не гавораць па-руску.

Па звестках амерыканскіх дыпламатаў, Уладзімір Пефціеў 5—7 гадоў жыў на Мальце і нават, магчыма, набыў падвойнае грамадзянства. Па тых жа звестках, у перыяд пражывання на Мальце бізнесмен некалькі разоў у год прылятаў у Мінск, "дзе прама ў аэрапорце яго сустракалі службы бяспекі і суправаджалі непасрэдна ў рэзідэнцыю прэзідэнта".

Бізнес-асацыяцыя Мальты паведамляла, што Пефціеў наведваў востраў з канца 90-х і валодае мальтыйскай кампаніяй Samuel International Limited. У 2008 годзе былы гандлёвы саветнік Расіі на Мальце Юрый Сізоў у сваёй кнізе "Сучасная Мальта: не толькі турызм" выказаў асаблівую ўдзячнасць свайму "кіраўніку і старэйшаму таварышу Уладзіміру Пефціеву.

### Мільярдэр?

У 2010 годзе ўкраінская газета "Дело" назвала Уладзіміра Пефціева самым багатым беларусам, ацаніўшы яго багацце ў 1 мільярд долараў.

Па звестках СМІ, на той момант Пефціеў валодаў ЗАТ "Белтэхэкспарт", ПУП "БТ Тэлекамунікацыі", з'яўляецца акцыянерам ААТ "Прыёрбанк", ААТ "Белзнешэканомбанк", інтэрнэт-правайдэра СП ТАА "Дзелавая сетка", аператара латарэі ЗАТ "Спорт-пары", СТАА "Малінаўшчызненскі спірта-гарэлачны завод "Аквадзіў" і іншых прадпрыемстваў.

### Знаёмыя-незнаёмыя

Праз тры дні пасля ўвядзення санкцый у дачыненні да Пефціева Лукашэнка заявіў, што ініцыятары гэтага рашэння — "нягоднікі і падонкі". Праз паўгода кіраўнік Беларусі зноў вярнуўся да пытання аб санкцыях у дачыненні да бізнесмена.

"Я вам клянуся: я Пефціева, можа, у жыцці бачыў тры разы. Калі ён у Кітай ездзіў, па ваенна-тэхнічным супрацоўніцтве дакладваў, па крэдытах, ён у дэлегацыі быў і вельмі шмат дапамог. Дапамог адзін мільярд долараў льготнага крэдыту атрымаць. А сказалі, што ён рэжым фінансуе... Я вам клянуся, што я ў Пефціева ніколі не тое што для асабістых, для дзяржаўных мэт ні капейкі не ўзяў. А яны ўзялі і закасілі гэтага мужыка", — абураўся Аляксандр Лукашэнка.

### Дзе Пефціеў?

У канцы мінулага года пасля арышту буйнога бізнесмена Віктара Шаўцова з'явіліся чуткі, што бегчы з краіны вырашыў і знаёмы з ім Уладзімір Пефціеў. Але Аляксандр Лукашэнка гэтыя чуткі абверг.

"Уладзімір Пефціеў па-ранейшаму пражывае ў Беларусі, вядзе бізнес, узначальвае Беларускую федэрацыю тэніса, часта бывае за мяжой у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. З 1993 года ў яго функцыянуе фірма па прасоўванні беларускіх тавараў у гэтым рэгіёне", — заявіў Лукашэнка, зачытваючы прадстаўленую яму падчас прэс-канферэнцыі інфармацыю.

Дададзім, што ў Абу-Дабі працуе даччыная кампанія "Белтэхэкспарту" BelTechExport FZE. Ці прададзена яна ў сувязі з апошняй здзелкай, не вядома. А вось Беларускую тэнісную федэрацыю Пефціеў больш не ўзначальвае.

### Хто пакваціцца на мільён?

Калі верыць экс-кандыдату ў прэзідэнты Алесю Міхалевічу, які зараз жыве ў Еўропе, Уладзімір Пефціеў прапанаваў мільён долараў таму, хто даб'ецца выключэння яго прозвішча з "чорнага спісу Еўрасаюза". Палітык паведаміў, што чуў пра гэта з некалькіх крыніц.

Народная Воля http://www.nv-online.info
1 ЧЭРВЕНЯ 2012 г.



# Свабоду Алегу Волчаку!

БЕЗЗАКОННЕ

### Гары ПАГАНЯЙЛА:

## «Суд не павінен аддаваць перавагу міліцэйскім паказанням...»

Як паведамляла "Народная Воля", праваабаронца Алег Волчак асуджаны да дзевяці сутак адміністрацыйнага арышту. Суддзя **Таццяна ТКАЧОВА,** даверыўшыся паказанням супрацоўнікаў палка міліцыі асаблівага прызначэння Дзмітрыя Тукайлы і Андрэя Каніна, прызнала Волчака вінаватым у дробным хуліганстве, а дакладней — у нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы...

Чаму суд стаў на бок міліцыянераў? Чаму не былі прыняты да ўвагі сведчанні Дзмітрыя Кухлея — сведкі з боку абароны, які пад судовай прысягай сцвярджаў, што чуў дыялог Волчака з міліцыянерамі ад першага да апошняга слова, і засведчыў, што Алег не лаяўся...

Былы суддзя **Гары ПАГАНЯЙЛА** ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" расказаў, чым павінен кіравацца суд пры вынясенні рашэння па падобных справах.

— Пачну з таго, што ніякага закона, які б забараняў міліцыянерам сведчыць у беларускіх судах, няма. І ніколі не было. Але, улічваючы тое, як судамі трактуюцца паказанні супрацоўнікаў міліцыі, гэта не зусім правільна. Бо толькі міліцэйскіх паказанняў хапае, каб адправіць чалавека за краты. Ніякія іншыя сведчанні суд чамусьці не ўлічвае. Хаця міліцыянеры, роўна як і іншыя сведкі, выступаюць перад судом, і ніякай перавагі іхнім паказанням перад паказаннямі іншых сведак па законе няма і быць не павінна. Паказанні расцэньваюцца на роўнай аснове разам з тымі доказамі, якія даследаваны судом. Так патрабуе закон.

Але ў беларускіх судах, як мы бачым, перавага аддаецца паказанням супрацоўнікаў міліцыі. У той жа час можна казаць аб тым, што гэтыя сведкі з'яўляюцца зацікаўленымі асобамі, бо менавіта яны затрымлівалі чалавека, складалі рапарты... Абуральна, што суд верыць міліцыянерам толькі на слова. Нават у такіх сітуацыях, як з Алегам Волчакам, калі іншыя сведкі сцвярджаюць, што нічога супрацьзаконнага Алег не рабіў!

Суд робіць ацэнку паказанняў сведак. І ў любым судовым рашэнні павінна быць матывацыя таго, чаму паказанні тых ці іншых сведак узяты пад увагу, а процілеглыя паказанні не. Калі ў рашэнні няма такой часткі, можна гаварыць аб прадузятасці суда. Суд павінен вывучаць, наколькі аб'ектыўна той ці іншы сведка дае паказанні. Ці можна давяраць яго паказанням? Ці адпавядаюць яны аб'ектыўна-прававым даным, якія маюцца ў распараджэнні суда? Існуюць прынцыпы дапушчальнасці паўнаты паказанняў. На аснове гэтых прынцыпаў суды і павінны вырашаць справу.

Любы з бакоў, які ўдзельнічае ў працэсе, мае права выклікаць сведак. Суд павінен аб'ектыўна ацэньваць паказанні ўсіх удзельнікаў працэсу. Суддзі павінны кіравацца рашэннямі пленумаў Вярхоўнага суда, дзе канкрэтна напісана, па якіх крытэрыях павінны ацэньвацца паказанні. Аднак усё гэта ў тэорыі. А на практыцы далёка не заўжды нашы суды гэтым кіруюцца... Таму і адбываецца ў беларускіх судах тое, што адбываецца. Міліцыянеры засведчаць, што нямы выкрыкваў лозунгі, а бязрукі — пляскаў у далоні, і суды штампуюць рашэнні не задумваючыся.

ТЫМ ЧАСАМ

## «Там холадна і брудна...»

Днямі адвакат Дар'я Ліпкіна наведала Алега Волчака ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна. Па выніках сустрэчы было прынята рашэнне абскардзіць у Мінскім гарадскім судзе прыгавор суда Цэнтральнага раёна Мінска.

Пра гэта "Народнай Волі" паведаміла праваабаронца **Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ:**

"Нагадаю, што гэта другі адміністрацыйны арышт Алега ў гэтым годзе, першы быў у студзені, — гаворыць Міхайлоўская. — У параўнанні з папярэднім арыштам умовы знаходжання на Акрэсціна не змяніліся. Там холадна і брудна..."

## Візіт у суд

Карэспандэнт "Народнай Волі" адправіўся ў суд Цэнтральнага раёна сталіцы да суддзі Таццяны Ткачовай. Мы хацелі з першых вуснаў даведацца, чаму яна прыняла менавіта такое рашэнне па справе Алега Волчака, адправіўшы праваабаронцу за краты на дзевяць сутак. Чаму пры вынясенні рашэння суд стаў на бок міліцыянераў? Чаму не былі ўзяты пад увагу паказанні сведкі абароны Дзмітрыя Кухлея? Адным словам, мы хацелі разабрацца і пачуць тлумачэнні і абгрунтаванні, што называецца, з першых вуснаў...

Аднак учора ў першай палове дня Таццяна Ткачова увесь час знаходзілася ў дарадчым пакоі. У выніку яе сакратар паведаміла наступнае: "Непрацэсуальныя размовы суддзяў і грамадзян не прадугледжаны. Для таго, каб суддзя з вамі сустрэлася, неабходна звярнуцца ў суд з афіцыйнай паперай на імя старшыні суда..."

Учора "Народная Воля" накіравала адпаведны ліст у суд Цэнтральнага раёна г.Мінска. Мы ўсё ж лічым, што суддзі павінны тлумачыць грамадскасці, як і чаму яны выносяць тыя ці іншыя рашэнні.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

*Шэраг праваабарончых арганізацый свету падпісаліся пад зваротам да кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і генеральнага пракурора краіны Аляксандра Канюка з заклікам тэрмінова вызваліць Алега Волчака*

# Вызваліць!

**Мы, праваабарончыя арганізацыі, што ніжэй падпісаліся, глыбока занепакоены нядаўнім арыштам беларускага праваабаронцы Алега Волчака і працягам ціску на яго і іншых праваабаронцаў у Беларусі. Мы перакананы, што затрыманне Алега Волчака было звязана з яго дзейнасцю ў галіне правоў чалавека, у тым ліку з яго апошнімі публікацыямі ў інтэрнэце аб пагаршэнні палітычнай сітуацыі ў Беларусі напярэдадні яго арышту. Мы заклікаем беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць Алега Волчака, цалкам рэабілітаваць яго і спыніць пераслед праваабаронцаў у сувязі з іх прафесійнай дзейнасцю.**

24 мая 2012 года Алег Волчак, беларускі праваабаронца і кіраўнік праваабарончай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву", быў арыштаваны міліцыяй у Мінску. У той жа вечар суд Цэнтральнага раёна Мінска асудзіў яго на дзевяць сутак адміністрацыйнага арышту за дробнае хуліганства (артыкул 17.1 Адміністрацыйнага кодэкса Беларусі).

Напярэдадні затрымання Алег Волчак даў інтэрв'ю, у якім выказаў сваё меркаванне з нагоды змены палітычнай сітуацыі ў краіне і заклікаў судзіць усіх, хто ўдзельнічае ў катаваннях і жорсткім абыходжанні.

Нядаўні арышт Алега Волчака з'яўляецца выразным працягам пастаяннага ціску на яго ў Беларусі. 27 студзеня 2012 г. ён быў арыштаваны і абвінавачаны ў дробным хуліганстве і асуджаны да чатырох сутак адміністрацыйнага арышту. 12 сакавіка 2012 года Алег Волчак быў праінфармаваны, што на яго накладзена часовая забарона на паездкі за мяжу. Ён быў праінфармаваны Міністэрствам унутраных спраў аб тым, што часовая забарона на паездкі стала вынікам інфармацыі, прадстаўленай Міністэрствам юстыцыі на падставе грамадзянскай справы супраць яго. Яму параілі звярнуцца ў Міністэрства юстыцыі для атрымання дадатковай інфармацыі. Дагэтуль, нягледзячы на просьбы Волчака, ніякай інфармацыі па гэтай справе ён не атрымаў.

Як і ў студзені 2012 года, Алег Волчак зараз адбывае пакаранне ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІЗА), што знаходзіцца на вул.Акрэсціна, 36 у Мінску. Беларускія праваабаронцы неаднаразова заяўлялі, што ўмовы ўтрымання ў ЦІЗА з'яўляюцца бесчалавечнымі.

На наш погляд, апошняе затрыманне Алега Волчака —гэта яшчэ адзін прыклад працягу сістэматычнага ціску на праваабаронцаў, апазіцыю і іншых актывістаў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Яго выпадак наглядна ілюструе захады, якія прымаюцца ў Беларусі, каб запалохаць і прымусіць замаўчаць крытычныя галасы. Адвольныя затрыманні шырока выкарыстоўваюцца для падаўлення асоб, якія імкнуцца рэалізоўваць свае фундаментальнае права на свабоду думкі і выказвання ў Беларусі.

**У сувязі з гэтым мы нагадваем беларускім уладам аб іх міжнародных абавязацельствах па абароне права на свабоду выказвання меркаванняў і заклікаем іх:**

- **неадкладна і безумоўна вызваліць Алега Волчака і цалкам рэабілітаваць яго;**
- **зняць неабгрунтаваную забарону на паездкі ў дачыненні да Алега Волчака і цалкам забяспечыць яму права на свабоду перамяшчэння, а таксама зняць забароны на паездкі ў дачыненні да іншых праваабаронцаў, журналістаў, грамадскіх і палітычных лідараў і актывістаў;**
- **прыняць эфектыўныя меры па абароне праваабаронцаў і даць ім магчымасць ажыццяўляць сваю дзейнасць у галіне правоў чалавека беспераашкодна, як гэта прадугледжана ў Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах ад 9 снежня 1998 года.**

З павагай —

· Дом правоў чалавека ў Азербайджане
— Аб'яднанне па абароне правоў жанчын (APWR),
— Азербайджанскае аб'яднанне юрыстаў,
— Інстытут па правах мас-медыя,
— Інстытут па свабодзе і бяспецы рэпарцёраў,
— Таварыства юрыдычнай адукацыі;

· Беларускі дом правоў чалавека ў выгнанні (Вільнюс);

· Дом правоў чалавека ў Сараева
— Аб'яднанне жанчын-грамадзян "Renaissance",
— Фундацыя CURE,
— Хельсінкскі камітэт па правах чалавека ў Босніі і Герцагавіне,
— Рэгіянальны каардынатар для моладзёжных груп,
— Сербская Грамадская Рада,
— Цэнтр "Жанчына і грамадства";

· Дом правоў чалавека ў Заграбе
— Асацыяцыя садзейнічання забеспячэнню роўных магчымасцяў для людзей з абмежаванымі магчымасцямі,
— "Будзь актыўным, будзь эмансіпаваным" (В.а.В.е.),
— Цэнтр па вывучэнні праблем мірнага існавання (CMS),
— Дакумента — цэнтр працы з мінулым,
— GOLJP — Грамадзянскі камітэт па правах чалавека,
— Svitanje — Асацыяцыя па абароне і ўмацаванні псіхічнага здароўя;

· Дом правоў чалавека Тбілісі
— Артыкул 42 Канстытуцыі,
— Цэнтр па правах чалавека Грузіі (HRIDC),
— Грузінскі Цэнтр псіхасацыяльнай і медыцынскай рэабілітацыі ахвяр катаванняў — GCRT;

· Дом правоў чалавека ў Осла
— Інфармацыя па абароне здароўя і сацыяльных правоў,
— Фундацыя Дамоў правоў чалавека,
— Нарвежскі Камітэт па Бірме,
— Нарвежскі ПЭН-клуб;

· Фонд Рафта, Нарвегія,
· Хельсінкскі фонд па правах чалавека ў Польшчы;

· Армянскае Хельсінкскае Аб'яднанне (Арменія),
· Журналісцкі клуб Армянскага Хельсінкскага Аб'яднання (Арменія),
· Жаночы рэсурсны цэнтр Арменіі Shahkhatun (Арменія);

· Бялградскі цэнтр па правах чалавека,
· Хельсінкскі камітэт па правах чалавека ў Сербіі,
· Юрыдычны камітэт па правах чалавека YUCOM, Сербія,
· Грамадзянскія Ініцыятывы, Сербія,
· Policy Center, Сербія,
· Інстытут міра і дэмакратыі (Азербайджан),
· Клуб правоў чалавека, (Азербайджан),
· Грамадскае аб'яднанне садзейнічання свабоднай эканоміцы (Азербайджан),
· Артыкул 19, Вялікабрытанія,
· Індэкс цэнзуры, Вялікабрытанія.

Копіі былі накіраваны:
· у Генеральны дырэктарат па правах чалавека і прававых пытаннях Савета Еўропы, Страсбург,
· ва Упраўленне Вярхоўнага камісара па правах чалавека Савета Еўропы, Страсбург,
· спецыяльнаму дакладчыку ААН па становішчы праваабаронцаў, Жэнева,
· у Рабочую групу ААН па адвольных затрыманнях,
· у Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (БДІПЧ АБСЕ), Варшава,
· Дэлегацыі Еўрапейскага Саюза ў Рэспубліцы Беларусь,
· у Падкамітэт па правах чалавека Еўрапейскага парламента ў Брусэлі,
· міжнароднай дыпламатычнай супольнасці.

ГРАШОВАЕ ПЫТАННЕ

## Ці будзе далей зніжацца курс рубля?

*Беларускі рубель "пакаціўся" ўніз, народ пачынае скупляць валюту. Аб тым, што за гэтым стаіць, ці будзе долар і надалей узмацняцца, "Народнай Волі" распавядае доктар эканамічных навук, прафесар **Барыс ЖАЛІБА.***

Учора курс долара на біржы зноў узрос (на 60 рублёў — да 8410 рублёў) і падняўся да ўзроўню лютага 2012 года. Днём раней гэты курс падняўся на 110 рублёў, а з пачатку сакавіка рост склаў ужо 360 рублёў.

Нацыянальны банк тлумачыць гэтую з'яву так: *"Зніжэнне курса беларускага рубля да долара ЗША звязана з тым, што ў апошні час на сусветных рынках долар ЗША значна ўмацаваўся ў адносінах да еўра і расійскага рубля на фоне праблем у еўразоне і зніжэння цаны на нафту".*

— Думаю, што гэтыя ваганні курса долара носяць лакальны маштаб, — кажа Барыс Жаліба. — Рубель можа яшчэ і ўмацавацца, і аслабнуць. А чаму ён зараз пакаціўся ўніз? Па-першае, у многіх закончыліся тэрміны на кароткачасовыя рублёвыя дэпазіты, якія былі выгаднымі. Зараз людзі сталі пераафармляць уклады, пабачылі, што стаўка рэфінансавання істотна знізілася, а таму некаторыя вырашылі перавесці зберажэнні ў валюту, каб перастрахавацца. Акрамя таго, у многіх прадпрыемстваў, у каго добра працуе вытворчасць, таксама з'явілася неабходнасць у валюце для набыцця за мяжой сыравіны, матэрыялаў і гэтак далей. У той жа час трэба мець на ўвазе, што, магчыма, нагадвае аб сабе і палітыка, якую называюць "сацыяльным папулізмам". Эканоміку накіроўваюць на тое, каб да канца года сярэдні заробак беларусаў быў 500 долараў, а таму падымаюць заробкі і пенсіі даволі хуткімі тэмпамі, што ніяк не стасуецца з тэмпамі росту прадукцыйнасці працы. Рублёвая маса расце больш хутка, чым паступленні валюты ў краіну. Назіраюцца тэндэнцыі, ад якіх засцерагаў і МВФ, і Антыкрызісны фонд, і пра гэта трэба памятаць і ўраду, і Нацыянальнаму банку. Але, паўтаруся, пакуль глабальнай тэндэнцыі на рэзкі рост курса долара няма.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЕЛАРУСЬ — РОССИЯ

## Зноў «малочная» вайна?

Расійскія вытворцы малака запатрабавалі забараніць увоз беларускай прадукцыі з 4 чэрвеня да 1 снежня.

*"У сувязі з вельмі цяжкай сітуацыяй у сусветнай малочнай індустрыі, выкліканай перавытворчасцю малака і, як вынік, падзеннем цэн, расійская малочная галіна сутыкнулася з недапушчальным зніжэннем цэн як на сырое малако, так і на гатовую малочную прадукцыю",* — гаворыцца ў апублікаванай 28 мая рэзалюцыі Усерасійскай нарады прадстаўнікоў прадпрыемстваў малочнай галіны, якая прайшла 24 мая.

Прыпыніць увоз сухога натуральнага малака, сухога абястлушчанага малака, сухой малочнай сыроваткі і масла 72,5%-най і 82,5%-най тлустасці ўдзельнікі нарады патрабавалі не толькі з Беларусі, а таксама з далёкага замежжа.

## Российская «газовая игла» в действии

Стоимость тысячи кубометров газа, поставляемого "Газпромом" в Беларусь, в I квартале была в 2,31 раза ниже, чем голубого топлива, которое шло в Молдову, и в 2,7 раза ниже, чем в страны Балтии.

Согласно отчету "Газпрома", в первом квартале газ для Беларуси стоил 165,6 доллара за 1 тыс. куб. метров. Это самая низкая после российского рынка цена на голубое топливо, производимое и поставляемое компанией "Газпром". Для сравнения: экспортная цена на газ, который "Газпром" отправил молдавским потребителям, составила 382,24 доллара за 1 тыс. кубов, а для стран Балтии — 445,47 доллара за 1 тыс. куб. метров.

В этой связи почему-то сразу вспоминается поговорка про бесплатный сыр, который бывает только в мышеловке.

МАЙЦЕ НА ЎВАЗЕ

## Штраф за безбілетны праезд у межах СНД складзе 200 франкаў

200 швейцарскіх франкаў — гэта 1 мільён 720 тысяч беларускіх рублёў. Гэты штраф пагражае і беларусам-безбілетнікам.

Такое рашэнне было прынята на 56-м пасяджэнні Савета па чыгуначным транспарце дзяржаў-удзельніц СНД у Маскве.

Да новага пагаднення далучыліся толькі Беларусь, Расія, Украіна, Кыргызстан, Казахстан і Узбекістан. Але чакаецца, што ў бліжэйшым часе таксама гэтае пагадненне падпішуць не толькі іншыя краіны СНД, але і краіны Балтыі.

Нагадаем, на сённяшні момант штраф за безбілетны праезд у міжнародных цягніках у межах СНД складае падвойны кошт квітка.

Новаўвядзенне пачне дзейнічаць з 1 ліпеня 2012 года.

З-ЗА КРАТАЎ

## Замест лістоў — адны канверты

Беларускі закон не прадугледжвае якіх-небудзь абмежаванняў, з кім могуць ліставацца тыя, хто знаходзіцца за кратамі. Але палітвязень Яўген Васьковіч атрымлівае пошту толькі ад сваякоў.

Як заўважылі сябры Яўгена, астатнія лісты не прапускаюць. Час ад часу Яўгену перадаюць толькі канверты з імем і адрасам адпраўніка, і тады ён хаця б можа ведаць, хто да яго пісаў. Гэта вынікае з ліста Яўгена Васьковіча маладзёжнай актывісткі Марыі Квіцінскай: "Мінулыя тваё радкі, на жаль, не ўбачыў. Аддалі толькі канверт. Нічога, усё адно буду табе пісаць. На жаль, лісты атрымліваю толькі ад родзічаў. Пішу шмат каму, але не ведаю, ці даходзяць мае весткі". Як заўважае Маша, адказы ад Яўгена прыходзяць вельмі рэдка — недзе раз у паўгода. Многія лісты яму, як бачна з адказаў, зусім не перадаюць.

Прыведзеная вышэй цытата — з вельмі кароткага ліста (на адну трэць старонкі сшытка). Яўген Васьковіч піша, што здароўе яго не непакоіць, настрой добры. Распавядае, што прачытаў нядаўна кнігу Канстанціна Тарасава "Адзіны сьведка Бог".

"Гэта ўсе навіны, што могуць быць у мяне", — піша Яўген Васьковіч.

Яўген Васьковіч быў узяты пад варту 17 студзеня 2011 г. і асуджаны па артыкуле "Злоснае хуліганства" да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму за спробу падпалу дзвярэй будынка КДБ у Бабруйску. Гучыць сур'ёзна, але праваабаронцы сцвярджаюць, што пакаранне Яўгена непамерна вялікае. Бо на самай справе хлопцы крыху пашкодзілі дзверы будынка КДБ. Першапачаткова шкода была ацэнена ўсяго ў 85 тысяч рублеў. Але потым дзіўным чынам лічба дарасла да 1 мільярда рублёў. І хаця ў любым выпадку ніхто не пацярпеў, прыгавор аказаўся вельмі суровым. Хаця, нагадаем, па справе "Пінскдрэва", дзе загінулі людзі, пакаранне вінаватых, прызначанае судом, было непараўнальна больш мяккім. Атрымліваецца, што жыцці людзей у нашай краіне каштуюць значна менш, чым дзверы КДБ...

Яўген Васьковіч адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Разбор палётаў

*Пасля правальнага выступлення на чэмпіянаце свету па хакеі ў чарговы раз адбыўся "разбор палётаў" і "раздача сланоў" з удзелам высокіх спартыўных чыноўнікаў.*

Трэба адзначыць, што такія разборы ў апошні час сталі ўжо традыцыяй. І тут вельмі актуальны лозунг: "Мы — за стабільнасць!". Мінулым годам міністр спорту **Алег Качан** заявіў, што хакеісты *"павінны з пераламанымі рукамі і нагамі на лёд выходзіць, не даваць забіць шайбу ў свае вароты".* Гэтым разам на пасяджэнні выканкама Федэрацыі хакея чыноўнікі зноў галасілі: *"Дзе вынік пры такім фінансаванні хакея?"*

Дзе вынік? Добра пра гэта сказаў генеральны дырэктар мінскага "Дынама" **Аляксей Торбін**: *"Калі ігрок чэмпіянату Беларусі ў 18 гадоў атрымлівае 7—8 тысяч долараў у месяц — гэта ненармальна. Яму ўжо нічога не патрэбна, у яго ўжо ўсё ёсць".*

— Дазволю нагадаць прысутным, што ў краіне развіваецца 48 відаў спорту, — адзначыў і памочнік кіраўніка краіны па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіццю турызму **Ігар Заічкоў**. — Па фінансаванні хакей — на першым месцы... Хопіць размаўляць. Ніхто размаўляць больш не будзе... Нам з Алегам Леанідавічам (*Алег Качан — міністр спорту і турызму. —* **Аўт.**) сорамна перад прэзідэнтам за такі вынік".

Атрымліваецца, што за такі вынік чыноўнікам сорамна толькі перад кіраўніком краіны? А хто ж будзе прыносіць прабачэнні балельшчыкам? Чаму і хакеістам, і чыноўнікам не сорамна перад падаткаплацельшчыкамі? І адны, і другія кормяцца за кошт народа.

Па выніках пасяджэння выканкама стала вядома, што рэкамендавана пакінуць пасаду генеральнаму менеджару зборнай **Уладзіміру Сафонаву**. Галоўны трэнер каманды **Кары Хейкіля**, хутчэй за ўсё, працягне работу з камандай, а старшыня Федэрацыі хакея **Яўген Ворсін** сам папрасіўся ў адстаўку. Праўда, ці прымуць яе — пакуль не вядома.

**Алесь СІВЫ.**

## За што затрымалі галоўнага трэнера?

*У Міністэрстве спорту і турызму "Народнай Волі" ўскосна пацвердзілі, што на гэтым тыдні супрацоўнікамі сілавых структур затрыманы галоўны трэнер па лёгкай атлетыцы **Анатоль БАДУЕЎ.***

За два месяцы да пачатку Алімпіяды ў беларускім спорце зноў грымнуў скандал. "Прессбол" паведаміў аб затрыманні галоўнага трэнера зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы Анатоля Бадуева, якому быццам бы могуць інкрымінаваць некалькі складаў злачынства, у тым ліку і карупцыйнай накіраванасці. У КДБ інфармацыю не пацвердзілі, але і не абверглі.

— Пакуль ніякай афіцыйнай інфармацыі з гэтай нагоды ў нас няма, — паведаміла "Народнай Волі" прэс-сакратар федэрацыі лёгкай атлетыкі **Анастасія МАРЫНІНА**. — Тэлефон Анатоля Бадуева адключаны, самі мы ў сілавыя структуры не звярталіся. У Міністэрства спорту тэлефануйце, няхай там каментуюць.

— Падрабязнасцяў няма, таму што, наколькі я разумею, поўнай інфармацыяй валодаюць тыя кампетэнтныя органы, якія ажыццяўлялі затрыманне, — кажа прэс-сакратар Міністэрства спорту **Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ**. — Я не магу сказаць, у чым абвінавачваюць Бадуева і якая яго ступень віны. Але, думаем, органы, якія прымалі такое рашэнне, мелі падставы для затрымання. Між тым хачу сказаць, што і міністэрства, і федэрацыя лёгкай атлетыкі працягваюць падрыхтоўку да Алімпіяды ў Лондане. У нас ёсць кадравы рэзерв прафесійных трэнераў, і алімпійцы добра выступяць на Гульнях.

**— Ваша ведамства рабіла нейкія афіцыйныя запыты, каб разабрацца ў сітуацыі?**

— Магчыма, наша кіраўніцтва і валодае інфармацыяй, аднак я не ўпаўнаважаны яе каментаваць.

**— Хто зараз выконвае абавязкі галоўнага трэнера замест Бадуева?**

— Пакуль часова на гэта месца прызначаны дзяржаўны трэнер Аляксандр Трашчыла. Гэта прапісана ў яго службовых абавязках. Але, думаю, вырашыцца і пытанне з афіцыйным зацвярджэннем галоўнага трэнера. Яно не самае складанае.

**Алесь СІВЫ.**

